№ 25 (3970)

31 сакавіка 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Што там, на заводах і фабрыках?

СІТУАЦЫЯ

## МАЗаўцы: хто ў вёску, хто на лецішча

Як вядома, з 27 сакавіка па 6 красавіка многія рабочыя Мінскага аўтамабільнага завода знаходзяцца ў адпачынку з захаваннем 2/3 заробку. Прадпрыемства было вымушана пайсці на такую меру, бо тэмпы рэалізацыі прадукцыі няўхільна зніжаюцца. Летась удалося прадаць на 2238 грузавікоў менш, чым пазалетась. Што ж казаць пра сёлетнюю сітуацыю, калі расійскі рубель знізіўся да крытычнай адзнакі? Цягам двух месяцаў МАЗ прадаў у Расію 794 аўтамабілі, а гэта на 28,2% менш, чым летась за такі ж перыяд.

А што думаюць самі рабочыя пра будучае свайго прадпрыемства? Кожны, з кім удалося паразмаўляць, сцвярджаў, што адпачынку не рады. Што і не дзіўна. Здзівіла іншае. Здавалася б, горш, чым ёсць ужо быць не можа, але ніводны рабочы не захацеў адкрыта, а не ананімна паразмаўляць з журналістам, выказацца пра набалелае. Больш за тое, некаторыя з апытаных дэманстравалі спакой, казалі, што вымушаны адпачынак вельмі дарэчы: паедуць у вёску да родзічаў альбо на лецішчы наводзіць парадак пасля зімы.

**Мікалай Старыкаў** (прозвішча зменена па яго просьбе), рабочы са стажам, заўважыў: "Буду займацца добраўпарадкаваннем сваёй новай кватэры. Трэба там самім многае зрабіць – і падлогу, і сцены раўняць, і электрыку, і сантэхніку... Кватэру купілі, узяўшы крэдыт у банку. З такімі заробкамі вось ламай галаву, як гэты крэдыт аддаваць..."

Мікалай, і іншыя рабочыя прызнаваліся, што гатовы змяніць працу, але не ўяўляюць, куды сёння можна ўладкавацца, літаральна па ўсёй краіне на многіх дзяржаўных прадпрыемствах становішча не лепшае, чым на МАЗе: працоўныя тыдні скарачаюць, у адпачынкі працоўных адпраўляюць.



ДАРЭЧЫ

### Тыповая сітуацыя

Сітуацыя на МАЗе тыповая для многіх прадпрыемстваў беларускай прамысловасці. Сёлета чыстыя страты заводаў і фабрык за студзень склалі каля 35 трыльёнаў рублёў, што значна больш, чым за гэты месяц мінулага года. Аб'ёмы экспарту прамысловай прадукцыі значна ўпалі. Да прыкладу, за студзень у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года экспарт грузавых аўтамабіляў скараціўся на 3,4%, трактароў – на 18,1%, сельскагаспадарчай тэхнікі – на 45,3%, седлавых цягачоў – на 62,9%.

У такой сітуацыі застаецца толькі вырашыць: працаваць на склад ці выпрабляць такую колькасць прадукцыі, якую можна прадаць.

**Любоў ЛУНЁВА.**

## «Адны мятуць, другія ў калгасе...»

У Бабруйску 26 сакавіка спыніў працу Завод масавых шын, які з'яўляецца структурным падраздзяленнем «Белшыны».

Пра сітуацыю, якая ўзнікла на ЗМШ, «Народнай Волі» распавёў старшыня пярвічнай арганізацыі Беларускага незалежнага прафсаюза ААТ «Белшына» **Артур Міхалап:**

– Завод масавых шын зараз стаіць цалкам. Ніхто канкрэтную прычыну рабочым (а працуе на гэтым структурным падраздзяленні «Белшыны» каля 1000 чалавек) не тлумачыў. Людзей паставілі перад фактам: з 26 сакавіка вытворчасць спыняецца. Вось і ўсё. Зараз адну частку рабочых адправілі ў падшэфны калгас (так ён раней называўся), які апякуе прадпрыемства, другая ж частка пайшла на так званыя рамонтныя дні. Яны заключаюцца ва ўборцы тэрыторыі прадпрыемства. Адны мятуць, другія ў калгасе... Вось так і працуем...

Сярэдні заробак на прадпрыемстве – болей за 5 мільёнаў рублёў. Для Бабруйска грошы, як быццам нядрэнныя. Але няма працы – няма і заробку, гэта відавочна.

Я размаўляў з рабочымі, для ўсіх рашэнне кіраўніцтва аб спыненні вытворчасці стала нечаканасцю. У размовах супрацоўнікі Завода масавых шын выказвалі такую думку: праблемы на прадпрыемстве ўзніклі з-за таго, што прадукцыю збываць няма куды.

Вытворчасць абяцаюць аднавіць з першых дзён красавіка. Як будзе – паглядзім.

Між іншым, Завод масавых шын не з'яўляецца адзіным прадпрыемствам Бабруйска, супрацоўнікі якога засталіся без працы.

**Антон КАРАВАЙЧЫК.**

## Адправілі ў вымушаныя адпачынкі з захаваннем 2/3 тарыфнай стаўкі

У вымушаныя канікулы адпраўлены рабочыя Бабруйскага завода тармазных матораў і механізмаў (ТАіМ). Гэтае прадпрыемства з'яўляецца эксклюзіўным пастаўшчыком камплектуючых на канвеер МАЗа. Як вядома, беларускі аўтамабільны гігант прыпыняе працу да 6 красавіка. Гэтая акалічнасць рыкашэтам ударыла і па рабочых ТАіМа.

Вось што распавёў адзін з лідараў Свабоднага прафсаюза Беларускага **Міхаіл Кавалькоў**:

– МАЗ прыпыніў працу, і ў Бабруйску прадпрыемства стала: людзей адправілі ў вымушаныя адпачынкі з захаваннем 2/3 тарыфнай стаўкі. Чаму так адбываецца? Многія бачаць прычыны праблем беларускіх вытворчых прадпрыемстваў у тым, што зараз у Расіі эканамічны крызіс, а наша прадукцыя ў пераважнай большасці ідзе менавіта туды. Але праблема, мне падаецца, куды глыбей: не трэба ківаць на Расію, трэба мадэрнізаваць вытворчасць унутры Беларусі. Вы ж паглядзіце – склады завалены. Беларуская прадукцыя часцяком неканкурэнтаздольная – ёсць больш танныя і больш якасныя яе аналагі. Гэта першая прычына. Ну а другая прычына палягае ў метадах кіравання беларускай эканомікай. У нас жа як: ёсць план – давай выпраблій прадукцыю, а тое, што потым яна ляжыць на складах ці стаіць на заводскіх пляцоўках, – гэта другаснае...

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ДЫЯЛОГ

## Урад не спраўляецца. Незалежныя прафсаюзы гатовы дапамагчы

*Лідар Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў **Аляксандр Ярашук** накіраваў зварот прэм'ер-міністру **Андрэю Кабякову**. Незалежныя прафсаюзы лічаць, што ўрад не спраўляецца з выклікамі, з якімі сутыкнулася беларуская эканоміка, і заяўляюць пра сваю гатоўнасць дапамагчы. Калі ўрад пачуе прапановы дэмакратычных прафсаюзаў, яны гатовы несці салідарную адказнасць за выхад краіны з крызісу.*

"Звяртаюся да Вас у сувязі з сацыяльна-эканамічнай сітуацыяй, якая, на наш погляд, не атрымлівае адэкватнай ацэнкі ўрада, – *канстатуе Ярашук.* – Няўхільна зніжаецца заработная плата работнікаў і ўзровень даходаў іншых катэгорый насельніцтва, перш за ўсё – пенсіянераў. За люты сярэдняя заработная плата па краіне ў доларавым вылічэнні ледзь перавысіла 400 долараў, скараціўшыся ў параўнанні з канцом мінулага года больш як на трэць. Падобная дынаміка падзення назіраецца і з пенсіямі. Нарастаюць і становяцца масавымі праблемы з занятасцю, асабліва ў рэгіёнах і на такіх буйных прадпрыемствах, як МАЗ, "Гомсельмаш", дзе колькасць людзей, якія вымушана пакінулі працоўныя месцы, вылічаецца ўжо тысячамі.

Узнікненне ў сацыяльна-эканамічнай сферы краіны вострых праблем урад традыцыйна спрабуе растлумачыць уплывам сусветнага і расійскага крызісу, што з'яўляецца справядлівым толькі часткова. Верагодна, гэтай акалічнасцю тлумачыцца чакальная пазіцыя ўрада, нежаданне прыняць выклік як сігнал да неадкладнай выпрацоўкі ўласнай праграмы дзеянняў з унясеннем сур'ёзных карэкціровак у эканамічную палітыку краіны.

Сёння ўраду, на наш погляд, нельга сядзець і чакаць, што ўсё абыдзецца само сабой, што расійскі рынак, як было раней, зноў ажыве і будзе запатрабавана прадукцыя нашых прадпрыемстваў. Нельга пускаць на самацёк і рабіць стыхійнымі, бескантрольнымі працэсы вызвалення рабочай сілы, скарачэння працоўных месцаў, што мы сёння назіраем. Варта неадкладна прыступіць да выпрацоўкі дзяржаўнай праграмы занятасці, перавучвання персаналу, праграмы стварэння новых працоўных месцаў.

Пара нарэшце прызнаць, што эканамічны крызіс прыйшоў у Беларусь усур'ёз і надоўга, і прыступіць да ажыццяўлення энергічных, хуткіх і дзейсных мер па яго пераадоленні. Гэтыя меры, акрамя пераадолення існуючых крызісных з'яў, маглі б таксама станоўча паўплываць на настроі сярод працоўных, папярэдзіць рост сацыяльнай напружанасці, якая непазбежна адбываецца ў сувязі з нарастаючымі праблемамі ў сферы занятасці і аплаты працы.

У сувязі з гэтым ураду неабходна, на наш погляд, выступіць з ініцыятывай неадкладнай адмены прэзідэнцкага Дэкрэта №5 ад 15 снежня 2014 г. «Аб узмацненні адказнасці кіруючых кадраў і работнікаў арганізацый» і адмовы ад падпісання падрыхтаванага дэкрэта аб барацьбе з дармаедствам. У цяперашняй няпростай сітуацыі і цяжкасцях, якія ў сувязі з ёю ўзніклі, патрабуецца кансалідацыя грамадства, варта праяўляць дзяржаўную мудрасць і ліквідаваць любыя фактары, што здольныя правакаваць рост незадаволенасці сярод працоўных і ўсіх грамадзян краіны.

Асацыяцыя прафсаюзаў «Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў» заклікае Вас і ўрад, які Вы ўзначальваеце, у гэты лёсавызначальны для краіны час праявіць прафесіяналізм і высокую адказнасць, якія дазволяць пераадолець бягучы сацыяльна-эканамічны крызіс і закласці асновы новай эканамічнай палітыкі. Палітыкі, здольнай прывесці Беларусь да росквіту, забяспечыць працоўным краіны годную працу і годную яе аплату. АП БКДП гатовы ўнесці ва ўрад свае прапановы, удзельнічаць у кансультацыях і абмеркаваннях крызіснай сітуацыі, якая стварылася, і выпрацоўцы мер па яе пераадоленні. Заяўляем таксама аб сваёй гатоўнасці несці салідарную адказнасць у рамках нашых паўнамоцтваў па выхадзе краіны з крызісу.

**Аляксандр ЯРАШУК, старшыня Асацыяцыі прафсаюзаў "Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў" (па даручэнні выканкама АП БКДП).**




ГОЛАС ГРАМАДСКАСЦІ

## Трэба мяняць структуру эканомікі і форму ўласнасці

Грамадскі рух "За Свабоду!" адгукнуўся заявай на спыненне канвеераў на многіх заводах і фабрыках, на тое, што ў краіне ўсчалася хваля скарачэнняў працоўных, якіх праз пэўны час могуць запісаць у "дармаеды".

Рух "За Свабоду" лічыць:

Абвешчаная мадэрнізацыя не дае і не прынясе чаканых вынікаў, бо трэба мяняць структуру эканомікі і форму ўласнасці. Цяпер, па сутнасці, мы бачым толькі выдаткоўванне грошай у новыя станкі ды патрабаванні прыгоннай дысцыпліны. Гэта псеўдамадэрнізацыя і застой, а не развіццё!

На пачатку 1990 гадоў у Беларусі былі адны з найлепшых шанцаў з усіх краін былога СССР, каб правесці паспяховае рэфармаванне сваёй гаспадаркі і інтэграваць яе ў сусветную эканоміку. Беларусь мела добрую базу як высокаіндустрыялізаваная дзяржава з дастаткова адукаванай і кваліфікаванай працоўнай сілай. На вялікі жаль, гэтыя шанцы былі змарнаваны.

25 год таму жыхары суседняй Польшчы, крамы якой зіхацелі пустэчай, скуплялі ў Беларусі самыя розныя тавары. Сёння ўсё наадварот: беларусы дзясяткамі тысяч едуць у Беласток, Тэрэспаль ці Варшаву, каб набыць больш танныя прадукты, вопратку ці бытавую тэхніку. Простыя лічбы: Польшча купляе газ па 330 долараў за кубаметр, Беларусь – па 134. Сярэдні (налічаны) заробак палякаў складае 1090 долараў, а беларусаў – 410.

Дыягназ відавочны: сённяшняя эканамічная мадэль не здольна гарантаваць нашым людзям дабрабыт і ўпэўненасць у заўтрашнім дні.

ДЕМОКРАТИЯ ПО-БЕЛОРУССКИ

## Вот и верь Шакутину...

27 марта с.г. состоялось итоговое собрание акционеров ОАО "Амкодор" – управляющая компания холдинга» по работе за 2014 год. Из 2995 акционеров в зале присутствовали только 10, причем четыре из них мажоритарные. Этим демаршем акционеры показали свое неверие в созданный по лекалам господина А.В.Шакутина переприватизированный холдинг «Амкодор».

Похоже, не верит в него и сам автор, который является председателем Совета директоров и третий год подряд не присутствует на столь важном для акционеров собрании. На этот раз председатель собрания сообщил, что он находится в загранкомандировке.

Напомним, что уже 15 лет, когда у руля «Амкодора» находится А.В.Шакутин, акционерам не выплачиваются дивиденды по акциям.

Из доклада генерального директора ОАО «Амкодор» – управляющая компания холдинга» господина С.П.Ткачева было ясно, что год оказался провальным: убытки составили 91,4 миллиарда рублей, рентабельность продаж составила -2%, запасы готовой продукции к среднемесячному объему производства составили 344%, большая задолженность банкам из-за девальвации российского рубля, сильное падение объемов производства. На генерального директора было больно смотреть, так как по его отчету создавалось впечатление, что «Амкодор» скорее мертв, чем жив.

А ведь еще в 2014 году господин С.П.Ткачев, перейдя из кресла помощника президента страны по экономике в кресло заместителя генерального директора, был настоящим рупором белорусской экономической модели, поучал акционеров, как надо работать.

Пробыв всего полгода в кресле генерального директора, он на своей шкуре испытал прелести этой модели: высокий банковский процент, девальвация рубля, большая зависимость от России. У С.П.Ткачева как-то сразу пропали спесь и снобизм.

Может, всем оптимистам нашей экономической модели в правительстве Республики Беларусь надо дать поработать на конкретном предприятии, тогда наконец начнут проводиться реформы?

**Олег СНОВ.**

ГРОШЫ

## У якой валюце лепш захоўваць зберажэнні?

*Фінансавы аналітык афіцыйнага партнёра Альпары ў Мінску Вадзім Іосуб распавядае пра сітуацыю на фінансавым рынку Беларусі.*

30 сакавіка на таргах Беларускай валютна-фондавай біржы **долар** вырас на 100 рублёў – да **14.740 рублёў.** Праўда, з пачатку сакавіка курс долара знізіўся на 150 рублёў, а за люты – на 510.

Курс **еўра** ўчора таксама вырас на 100 рублёў – да **15.970.** З пачатку сакавіка еўрапейская валюта патаннела на 730 рублёў.

**Расійскі рубель** знізіўся на 2,5 рубля да **251,5**, але з пачатку месяца ўзмацніўся на 9 рублёў.

У якой валюце беларусам лепш захоўваць сёння свае грошы? Эксперт адзначае: каб адказаць на гэта пытанне, трэба ведаць, на які час чалавек збіраецца пакласці грошы на дэпазіт.

### Расійскі рубель

– Пасля працяглага падзення ён пачаў актыўна аднаўляцца як да сусветных валют, так і да беларускага рубля. Хоць складана лічыць гэтую тэндэнцыю ўстойлівай, бо заходнія санкцыі да Расіі нікуды не зніклі.

Аднаўленне рубля можна звязваць з некаторай стабілізацыяй коштаў на нафту, але, калі яны зноў пачнуць падаць, то знізіцца і расійскі рубель. Захоўваць дэпазіты ў гэтай валюце даволі рызыкоўна.

### Беларускі рубель

– Нягледзячы на тое, што ў апошні час актыўна зніжаюцца працэнтныя стаўкі па дэпазітах у беларускіх рублях, яны ўсё роўна даюць самы добры прыбытак. Але гэта, калі казаць пра захоўванне грошай на тэрмін ад месяца да паўгода. Ніхто не ведае, што будзе з нацыянальнай валютай праз год, а адпаведна я не даваў бы парады рабіць у беларускіх рублях доўгатэрміновыя ўклады.

### Долары і еўра

– Калі размова ідзе пра захоўванне зберажэнняў на доўгатэрміновы перыяд, трэба аддаваць перавагу ўстойлівым сусветным валютам – долару ці еўра. Праўда, на бліжэйшы год ці два лепш давяраць долару.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## Іспанскае "золата" Герасімені

*Беларуская плыўчыха Аляксандра Герасіменя выйграла Адкрыты чэмпіянат Іспаніі на дыстанцыі 50 метраў вольным стылем.*




Аляксандра парадавала сваіх балельшчыкаў "золатам" ужо ў першы дзень спаборніцтваў.

А яшчэ больш радасці дабавіў Мікіта Цмыг, які на гэтым жа чэмпіянаце заваяваў бронзавы медаль на дыстанцыі 200 метраў на спіне з новым рэкордам Беларусі.

**Аляксандр НІКАНОРАЎ.**

НАДВОР'Е

## На каталіцкі Вялікдзень мокры снег і дождж

Увесь тыдзень у Беларусі будзе ветрана, халаднавата і мокра.

Такі прагноз пагоды даюць беларускія сіноптыкі.

Сёння на большай частцы тэрыторыі ападкі, у асноўным дождж. Месцамі ўзмацненне ветру парывамі да 15–18 м/с. Тэмпература паветра мінімальная ноччу +1...+6°С, максімальная днём +4...+10°С.

Пачатак красавіка таксама будзе непагодлівым. 1 красавіка – дождж, мокры снег. Ноччу ў паўднёва-заходніх раёнах, днём на большай частцы краіны ўзмацненне ветру парывамі да 15–20 м/с. Тэмпература паветра мінімальная ноччу -1...+4°С, максімальная днём +2...+8°С.

2 і 3 красавіка на большай частцы краіны кароткачасовыя ападкі (мокры снег, дождж). Ноччу і раніцай месцамі слабы галалёд, на дарогах галалёдзіца. Тэмпература паветра мінімальная ноччу -5...+1°С, максімальная днём +1...+7°С.

У выхадныя захаваецца няўстойлівае надвор'е. Краіна будзе знаходзіцца ў полі паніжанага ціску і вільготнага паветра з Балтыкі.

Чакаюцца кароткачасовыя ападкі (мокры снег, дождж). Ноччу і раніцай у асобных раёнах слабы галалёд, на дарогах галалёдзіца. Тэмпература паветра мінімальная ноччу 0...-5°С, максімальная днём +1...+8°С.

УДАКЛАДНЕННЕ

## Праезд па новых коштах — у красавіку

Праезд у грамадскім транспарце Мінска падаражэе **ў красавіку, а не ў кастрычніку**, як напісала "Народная Воля" ў мінулым нумары. Менавіта красавік мела на ўвазе начальнік фінансава-эканамічнага ўпраўлення дзяржаўнага прадпрыемства «Мінсктранс» **Ганна Міхайлоўская,** калі расказвала, што талончык на адну паездку ў сталічным транспарце будзе каштаваць 5 тысяч, а ў аўтобусах экспрэс-маршрутаў – 6,5 тысячы. Просім прабачэння за прыкрую памылку ў чытачоў.

